


# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 406 Кастрычнік 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ЛІСІЦА Й ВАРОНА

**Да ацэнкі Першага зьезду беларусаў сьвету**

Прайшло ўжо крыху часу ад зьезду беларускага замежжа ў Менску ў ліпені сёлета. Рэха гэтай падзеі яшчэ чуваць сярод тых, хто ўзяў у ёй удзел, і да пэўнай меры жаль сярод тых, хто з тых ці іншых прычынаў ня змог там быць. Я атрымаў уражаньне, што ўдзельнікі вярнуліся зь вялікай дозай эўфарыі, і не бяз прычыны. Зьезд прайшоў на надзвычай высокім мастацкім ды нацыянальным узроўні. Бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня сіялі на сцэне — тыя самыя сымбалі, за якія тысячы загінулі у падвалах КДБ, Курапатах ды сібірскай тайзе. Беларускія патрыятычныя песьні «Пагоня», «Магутны Божа» прагучэлі на залі. Шмат хто пусьціў сьлязу, адчуўшы сябе ўдома ў родным Менску ды ўспомніўшы той час, калі за падобныя песьні пагражала небясьпека арышту й доўгага зьняволеньня.

Цяпер у мяне паўстае пытаньне: чаму БНФ, БАЗА ў ЗША ды ЗБК ў Канадзе мелі даволі вялікія зясьцярогі наконт таго, ці прымаць удзел у гэтым зьезьдзе. Прызнаюся, што я таксама адзін з тых, хто меў гэтыя засьцярогі. У мяне паўстаюць два пытаньні, на якія, магчыма, чытач дапаможа мне знайсьці адказ.

На першае пытаньне — чым паясьніць такі высокі нацыянальна-патрыятычны ўзровень зьезду? — даволі лёгка адказаць: удзельнікамі зьезду былі ў пераважаючай бальшыні людзі з замежжа, дзе яны захавалі родную мову, нацыянальную сымболіку ды ідэал незалежнай дэмакратычнай дзяржавы. Разам зь імі былі сябры БНФ — гарачыя патрыёты, якія пры першай нагодзе адкінулі ды спалілі партыйныя білеты, дэманструючы гэтым свой пратэст супраць накінутай ім сілай чужой сыстэмы.

Другое пытаньне больш складанае: чаму ўрад Рэспублікі Беларусь, які амаль поўнасьцю прадстаўляе сабой урад былое БССР, пераняў ініцыятыву ды згадзіўся фінансаваць цэлую імпрэзу? Тут я папрашу чытача дапамагчы мне знайсьці адказ на гэтае пытаньне. Прапаную некалькі варыянтаў адказу. Першы гэта — магчыма, стаўся цуд: былая намэнклятура раптам убачыла сьвятло і ператварылася ў беларускіх патрыётаў, якія бачаць і хочуць пабудаваць беларускую дзяржаўнасьць. Але ў практыцы гэтага ня відаць. Яны супраць вольных выбараў, супраць эканамічных рэформаў, супраць беларускай мовы. Бо чаму-ж да гэтай пары амаль ніхто зь іх у Вярхоўным Савеце не гаворыць па-беларуску? Сп. Кебіч ганарыцца ведаю польскай мовы, але нейк яму цяжка навучыцца сваёй роднай мовы — ня мае ахвоты. Беларусы вельмі здольныя да моваў. Дыяспара хутка апанавала чужыя мовы. Была патрэба ды ахвота.

А можа гэта старая практыка — крок назад, а два наперад? Чаго-ж вы хочаце? У Беларусі поўная свабода. Аднак падзеі зьезду мала былі ведамыя мясцоваму насельніцтву. Сродкі масавай інфармацыі вельмі ўдала «інфармавалі» аб зьезьдзе, асабліва тэлебачаньне. Яно спрытна агранічыла інфармацыю аб некаторых выступленьнях і падзеях на зьезьдзе.

А можа ўрад рэспублікі хацеў паказаць, што ён патрыятычны ды гатоў адгарадзіцца ад Расеі? Барані Божа, не. Ён хутчэй імкнецца падпісаць вайсковую ўмову з Расеяй, каб бараніць Беларусь. Але ад каго?

А можа ўлады хацелі паказаць, што яны поўнасьцю адмовіліся ад мінулага? Але вось глядзі: камуністычная партыя зноў легальная! Тая самая партыя, якая давяла да эканамічнай руіны адну з найбагацейшых краінаў. Праграма партыі тая самая.

Мне напамінаецца адзін з маіх пацыентаў, які курыў тры пачкі папяросаў у дзень ды захварэў на рака лёгкіх. Калі я паясьніў прычыну хваробы, ён падзякаваў ды далей сабе курыў. Дык дзе-ж адказ на маё пытаньне?

На дрэве сядзіць варона і трымае сыр у дзюбе, а лісіца мела апэтыт на гэты сыр. «Якая ты прыгожая», — сказала яна вароне, — «напэўна маеш таксама прыгожы голас». І варона, захопленая пахвалой, паказала свой голас, ды сыр апынуўся ў лісіцы, а варона засталася з пустым дзюбам.

Наш сыр, спадары, гэты ідэал вольнай незалежнай і дэмакратычнай Беларусі. Ідэал, які мы перахоўваем поўстагодзьдзя. Не дазвольце, каб нам яго забралі.

**Б. Рагуля**

П.С. Хацеў-бы пачуць камэнтары чытачоў.

### *БЕЛАРУСЬ НАБЛІЖАЕЦЦА ДА СВАЙГО (КУПАЛАЎСКАГА) ГІМНУ*

Няслава, якая дасюль суправаджае новую беларускую дзяржаву — стары савецкі гімн з выхваляньнем збанкрутаванае ленінска-сталінскае партыі — можа, неўзабаве скончыцца. Журы конкурсу на новы гімн Рэспублікі Беларусь знайшло шчасьлівую, думаецца, развязку з тэкстам, узяўшы першыя чатыры і апошнюю зваротку верша Янкі Купалы «Маладая Беларусь» (напісанага ў 1913 годзе). Апошняя зваротка вершу (якая магла-б быць прыпевам) гучыць наступна:

Падымайся зь нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі;
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі!..

Журы абвесьціла конкурс на музыку да купалаўскіх слоў з тэрмінам да 15 лістапада гэтага году.

## ЛІСТЫ ПРЭЗЫДЭНТУ КЛІНТАНУ І АДКАЗЫ АД ЯГО

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) пасьля свайго апошняга кангрэсу (гл. «Беларус» № 405) выслала ў Белы Дом прынятую на кангрэсе падзяку Прэзыдэнту ЗША Білу Клінтану за ягонае прыняцьце Старшыні ВС Беларусі Станіслава Шушкевіча. У тэлеграме БАЗА было сказана:

Паважаны сп. Прэзыдэнт!

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ўдзячнае Вам за запросіны ў Белы Дом сп. Станіслава Шушкевіча, Старшыню Беларускага парлямэнту. Сп. Шушкевіч, лідэр з дэмакратычнымі ідэямі, шукае выйсьця зь вельмі складанага палажэньня. Мы спадзёмся, што ён паедзе з Вашынгтону зь некаторымі канкрэтнымі вынікамі, якія дапамогуць яму выжыць ад нападаў на яго з боку камуністычных дэпутатаў у парлямэнце. Мы хацелі-б бачыць узмацненьне амэрыканска-беларускага супрацоўніцтва, асабліва ў галіне эканомікі і абмену зь Беларусяй амэрыканскім досьведам».

На гэтую тэлеграму прыйшоў адказ зь Белага Дому:

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

October 15, 1993

Members of
Belarusan-American Association, Inc.
Jamaica, New York

Dear Friends:

Thank you for sending your resolution. My meeting with Chairman Shushkievich represented the first official meeting with the head of state of one of the newly independent states of the former Soviet Union. I feel that great progress was made during this meeting.

Chairman Shushkievich can be praised for the support Belarus has given to the cause of nonproliferation by joining the Non-Proliferation Treaty. At our meeting I also stressed the strong interest of the United States in expanding economic ties with Belarus, particularly in trade and investment opportunities for American and Belarusan firms. I hope that our countries will soon conclude a bilateral investment treaty, a tax treaty, and a Peace Corps agreement.

As the United States works with reformers throughout the newly independent states of the former Soviet Union, I appreciate your continuing interest in this important issue.

Sincerely,

Bill Clinton

Прэзыдэнт Клінтан піша:

Дзякую за вашу рэзалюцыю. Мая сустрэча са Старшынём Шушкевічам была першым афіцыйным спатканьнем з кіраўніком нованезалежных дзяржаў былога Савецкага Саюзу. Я думаю, што былі зроблены вялікі прагрэс у часе гэтага спатканьня.

Старшыня Шушкевіч заслугоўвае на пахвалу за падтрыманьне з боку Беларусі справы непашыраньня ядзернай зброі праз далучэньне да Дагавору аб Непашыраньні. У часе нашай сустрэчы я таксама падкрэсьліў моцнае зацікаўленьне Злучаных Штатаў справаю пашырэньня эканамічных сувязяў зь Беларусяй, асабліва ў разьвіцьці гандлёвых і інвэстыцыйных магчымасьцяў амэрыканскіх і беларускіх фірмаў. Я спадзяюся, што нашыя краіны хутка заключаць двубаковыя дагаворы аб інвэстыцыях, аб падатках, а таксама пагадненьне аб Корпусе Міру.

Паколькі Злучаныя Штаты супрацоўнічаюць з рэфарматарамі па ўсіх нованезалежных дзяржавах былога Савецкага Саюзу, я цаню вашу працяглую зацікаўленасьць гэтым важным пытаньнем.

Шчыра Ваш — Біл Клінтан.

Падобнага зьместу пасланьні ад Прэзыдэнта Клінтана атрымалі таксама ў адказ на свае лісты й тэлеграмы ў Белы Дом сп. Расьціслаў Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, і сп. Язэп Арцюх, рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду».

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПАХВАЛА БЕЛАРУСІ АД ЗША

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (27.X), пад заг. «Крыстофэр хваліць Беларусь у ядзерным пытаньні», падала зь Менску выказваньне Дзяржаўнага Сакратара ЗША Ўорэна Крыстофэра, які сказаў на прэсканфэрэнцыі (праведзенай супольна са Старшынём ВС сп. Ст. Шушкевічам), што Беларусь «служыць яркім прыкладам іншым дзяржавам свайго рэгіёну» за ейную дзейнасьць па лініі ядзернага раззбраеньня ды што гэта забясьпечыла Беларусі «ўдзячнасьць усяе сусьветнае грамадзкасьці».

Газэта «НЁТ» зазначыла, што выказваньне сп. Крыстофэра было гэтулькі-ж пахвалою Беларусі, колькі й сыгналам Украіне, якая, заявіўшы пра сваё жаданьне стацца бязьядзернай дзяржавай, тымчасам затрымвае ў сябе ракеты, патрабуючы ад Захаду адпаведнае сумы грошай і запэўненьня ейнае бясьпекі перад Расеяй.

На прэсканфэрэнцыі ў Менску Дзяржаўны Сакратар Крыстофэр падаў таксама да ведама аб пастанове беларускага кіраўніцтва правесьці выбары ў сакавіку 1994 году.

## ПАЦЬВЕРДЖАНЬНЕ Ў «НЬЮ-ЁРК ТАЙМСЕ» ПРАВІЛЬНАСЬЦІ ПАЗЫЦЫІ ЗЯНОНА ПАЗЬНЯКА

На сустрэчы з выбаршчыкамі ў Менску лідэр апазыцыі ў ВС РБ Зянон Пазьняк, як падала газэта «Зьвязда» (9.X), выступіў з праграмнай прамовай. «Каротка сутнасьць яго выступленьня, — піша «Зьвязда», — можна зьвесьці да двух галоўных тэзісаў. Першы. Зьяўляецца суседняя дзяржава (Расея — рэд. «Беларуса») імпэрыяй камуністычнай або імпэрыяй лібэральнай, у любым выпадку яна ўяўляе пагрозу сувэрэнітэту Беларусі. У Расіі пры любым кіраўніцтве свае геапалітычныя інтарэсы, якія знаходзяцца ў супярэчнасьці зь інтарэсамі Беларусі».

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» (27.X.93) зьмясьціла тры артыкулы паважных знаўцаў міжнародных справаў: Джона П. Ганы, намесьніка дырэктара Вашынгтонскага Інстытуту Блізкаўсходняе Палітыкі; Мэлора Стуруа, палітычнага камэнтатара газ. «Известия», які часова выкладае ва Ўнівэрсытэце Штату Мінэсота; і Марка Уліга, былога замежнага карэспандэнта газ. «НЁТ». Зь іхных артыкулаў вынікае, што:

1. У дачыненьні да Грузіі Расея, карыстаючыся сваім ваенным патэнцыялам (праз абхазцаў) ды пры дапамозе эканамічнага ціску, паставіла на калені грузінскага лідэра Э. Шэварнадзэ і змусіла Грузію згадзіцца на расейскую інтэрвэнцыю, а таксама ўступіць у СНД.

2. Тое самае што з Грузіяй, Расея зрабіла з Азэрбайджанам, разыгрываючы супраць яго армянаў (карабахскі канфлікт). Азэрбайджан таксама далучыўся да СНД.

3. На чарзе стаяць Украіна і Малдова. «З падпарадкаваньнем сабе ізноў Украіны, — піша «НЁТ», — дэмакратычная Расея Барыса Ельцына зойдзе далёка па лініі аднаўленьня свае старое імпэрыі».

### *НОВЫ ПАГЛЯД НА РАСЕЙСКУЮ ІМПЭРЫЮ*

У газэце «Наша Ніва» (№ 15, 1993) гісторык Генадзь Сагановіч піша пра застойны стан сучаснае гістарычнае навукі Беларусі: «Не разьвітваючыся з марксізмам, нашая гістарыяграфія застаецца бээсэсэраўскай, — з рацыяй кажа Сагановіч. — Гэтак прарыву да ведаў новага ўзроўню яна ня зробіць».

У сувязі з гэткім паглядам варта зацікавіцца новай гістарычнай працай швайцарскага аўтара Андрэаса Капэлера (Andreas Kappeler. *Russland als Vielvölkerreich: Entstehung, Geschichte, Zerfall* (Расея як шматнацыянальная імпэрыя: паўстаньне, гісторыя, распад). München: C.H. Beck, 1992. 395 S). Рэцэнзэнт гэтай кнігі, амэрыканскі прафэсар Эдвард Тадэн даў высокую ацэнку працы Капэлера як «першаму навуковаму агляду й сынтэзу гісторыі расейскай шматнацыянальнай імпэрыі. Капэлер разглядае нацыянальную праблему і развал СССР у гістарычным кантэксьце. Сваю рэцэнзію праф. Тадэн канчае гэткай парадай: «Гэтая надзвычайна важная праца вартая таго, каб у бліжэйшай будучыні быць перакладзенай на беларускую, ангельскую, француcкую, расейскую, украінскую і нават у эстонскую, грузінскую, латышскую, летувіскую і узбэцкую мовы».

**Я.З.**

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую ўсім, хто выказаў мне спачуваньне з прычыны мае хваробы і страты ног у выніку яе. Дзякую за Вашыя малітвы і пажаданьні мне моцнага духа. Такая спачувальная ўвага ад сяброў і знаёмых — вялікая і вартасная дапамога ў маім стане.

Дай Вам Божа ўсім усяго найлепшага!

Лёндан, кастрычнік 1993

**Янка Міхалюк,**
**старшыня ЗБВБ**

### СУПРАСЬЛЕЎСКАЯ ЛАЎРА ВЕРНУТАЯ ПРАВАСЛАЎНЫМ

Неўзабаве пасьля наведаньня Беларусі польскім Прэзыдэнтам Лехам Валэнсам і гутарак зь ім Міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі, у чэрвені сёлета, польскія ўлады пастанавілі вярнуць Праваслаўнай Царкве ў Польшчы славутую Супасьлеўскую лаўру, звароту якое праваслаўныя беларусы дамагаліся на працягу 75 гадоў.

Артыкул Міколы Гайдука пра гісторыю Супрасьлеўскага манастыра зьмешчаны ў беластоцкай газэце «Ніва» (№ 42, 17.X.93).

# ДЗЕ ПРАЎДА ПРА НКВД?

**Адкрыты ліст сп. Эдуарду Шыркоўскому, старшыні КДБ РБ**

Нядаўна мне трапіў у рукі транскрыпт гутаркі (17.06.93) на менскім тэлебачаньні із сп. Эдуардам Шыркоўскім, старшынём КДБ. Першае, што мяне зьдзівіла, што сп. Шыркоўскі адказваў на пытаньні выключна на расейскай мове. Я ня супраць расейскай мовы. Мова прыгожая ды багатая, але й нашая мова таксама прыгожая й даволі багатая, каб выказацца на ёй у найбольш складаных пытаньнях.

Я разумею, што ў той час, калі сп. Шыркоўскі хадзіў у школу, беларускіх школаў амаль ня было. Апрача таго, было-б даволі рызыкоўна настойваць на адукацыі ў роднай мове. Клічка «нацыяналіст» магла-б загарадзіць дарогу да кар'еры ў тагачасным КДБ. Аднак сытуацыя значна зьмянілася ад 1985 году, калі я не памыляюся, і гутарыць на роднай мове ўжо ня лічыцца праступствам. Прайшло амаль восем гадоў, а мовы так і не навучыўся старшыня КДБ. Праўда, ён ужыў два беларускія словы: «добрыя хлопцы». Можа й хопіць на пачатк. Мяне НКВД навучыла гаварыць па-расейску за 6 месяцаў. Наша дыяспара апаноўвала чужыя ёй мовы на працягу аднаго ці двух гадоў. Дык хіба пара і адказным дзеячам РБ навучыцца па-беларуску.

Хачу я тут закрануць і іншае пытаньне, а менавіта акрэсьленьне працаўнікоў НКВД да 1937 г. як «опытных работников, преданных своему делу, которые прежде всего думали о благе народа». Вось для мяне гэта запраўды новае адкрыцьцё гісторыі. Як яно выглядае ў сьвятле фактаў? Вось перада мною брашура, выдадзеная сп. Міколам Абрамчыкам ў 1950 годзе пад загалоўкам «Я абвінавачваю Крэмль у генацыдзе маёй нацыі». Брашура гэтая абаснована на матэрыялах НКВД, якія трапілі ў рукі аўтара брашуры ў ліпені 1941 году. Паводля гэтых матэрыялаў, 500 навукоўцаў, 70 паэтаў ды пісьменьнікаў 600 журналістаў і палітычных дзеячоў, 20.000 настаўнікаў, дактароў, студэнтаў і 3.000.000 сялян ды рабочых сталіся ахвярамі жорсткіх чыстак. Хто-ж адказны за ўсе гэтыя ахвяры? Можа вось гэтая тэлеграма дасьць нам адказ:

«Верасень 23, 1929 г. Да ОГПУ у Менску. Падрыхтаваць 5.000 зьняволеных: 100 расейцаў, 1500 палякаў, а рэшта беларусы. — ОГПУ, Масква».

Верныя калябаранты, «опытные работники, преданные своему делу, которые прежде всего думали о благе народа», выканалі гэты загад. Гэта толькі маленькі прыклад.

Хто расстрэльваў нявінных людзей у Курапатах? Тыя самыя верныя калябаранты.

І апошняе пытаньне — гэта аб карупцыі на Беларусі. Крупцыя ёсьць усюды, але найбольш ураджайная глеба для карупцыі — таталітарныя сыстэмы. Кіраўніцтва таталітарных сыстэмаў не патрабуе адказваць перад народам, і калі той народ запратэстуе, дык яго зробяць ворагам ды хутка расправяцца. Сяньняшні Вярхоўны Савет рэспублікі і ўрад складаюцца ў бальшыні з прадстаўнікоў старой скарумпіраванай намэнклятуры, зь якой Вам, сп. Шыркоўскі, вельмі цяжка будзе змагацца. Таму гэтая намэнклятура і супрацівіцца вольным дэмакратычным выбарам, каб ня выпусьціць з рук лейцаў. Але калі гэтыя лейцы возьме ў рукі народ, тады й Вам, сп. Шыркоўскі, будзе лягчэй змагацца з карупцыяй ды мафіяй.

**Б. Рагуля**

### *НА БЕЛАРУСІ ПАДСЛУХОЎВАЮЦЬ ТЭЛЕФОНЫ*

Урадавыя органы РБ прынялі пастанову «аб праслухоўваньні службовых і асабістых телефонаў... без адпаведнай санкцыі пракурора». Падаючы пра гэта, газэта «Зьвязда» (8.X) зазначае: «Здаецца, тут крыюцца ня толькі сур'ёзныя парушэньні правоў асобы, але і вялікія няпрыемнасьці для кіраўнікоў вышэйназваных ведамстваў» (г.зн., Міністэрства ўнутраных спраў ды Міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларусі).

## ХТО ЎЗНАЧАЛЬВАЎ КДБ БЕЛАРУСІ?

У інтэрв'ю беларускаму тэлебачаньню («Дыялог у прамым эфіры», 17 чэрвеня 1993 г.) старшыня Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі Эдуард Шыркоўскі сказаў, што ён — 20-ты з чаргі начальнік рэспубліканскае службы нутраное бясьпекі (ЧК — ГПУ — НКВД — КДБ). Хто былі ягоныя папярэднікі? «Я магу, зразумела, успомніць, — сказаў сп. Шыркоўскі. — Я — першы беларус; было 9 расейцаў, габрэяў — 4, 3 — палякі, 2 — латышы і адзін — грузін». (RL/RFE, BT, 142-09).

## ВІТАНЬНЕ «БЕЛАРУСУ»

У сваім прывітаньні газэце «Беларус» з нагоды 42-х угодкаў ейнага выхаду Губэрнатар штату Іліной Джым Эдгар піша:



Беларуска-амэрыканскаму грамадзтву пашчасьціла мець газэту «Беларус», якая служыць добрай крыніцай усебеларускіх і мясцовых навінаў. Ваша газэта замацоўвае і пашырае ўсьведамленьне праблемаў і падзеяў, што маюць дачыненьне да беларусаў-амэрыканцаў.

Прымеце, калі ласка, мае найлепшыя пажаданьні з нагоды гэтых угодкаў — **Джым Эдгар, Губэрнатар.**

## КРЫЖА СЬВ. ЭЎФРАСІНЬНІ БУДЗЕ ШУКАЦЬ МІЖНАРОДНАЯ ПАЛІЦЫЯ

Як сказаў у Лёндане ў Англіі Міністар замежных спраў РБ сп. Пётр Краўчанка, Беларусь зьвярнулася да Інтэрполу (міжнароднай паліцыі) з просьбай дапамагчы знайсьці найдаражэйшую беларускую рэліквію — крыж сьв. Еўфрасіньні Полацкай, зроблены ў XII-м стагодзьдзі. Беларускі ўрад мяркуе, што крыж у часе Другой сусьветнай вайны ўкралі немцы, пасьля прадалі «загадкаваму мільянеру ў ЗША». «У нас ёсьць свае падазрэньні, — сказаў сп. Краўчанка, — але мы ня можам сказаць з упэўненасьцю, хто яго цяперашні ўладальнік». *(Зьвязда,* 16.X).

## ВЕРА Ў АДРАДЖЭНЬНЕ МОВЫ

Перачытаўшы заканчэньне свайго артыкулу пад заг. «Гісторыя паўтараецца», надрукаванае у 402-ім нумары (за чэрвень-ліпень г.г.) «Беларуса», я адразу зацікавіўся, а чый-жа гэта надрукаваны побач, так сказаць, па-суседзку артыкул пад заг. «Беларускі аўтар ува ўмовах небеларускасьці». Пачаўшы яго чытаць, я хутка здагадаўся (па стылю), што аўтар артыкулу — гэта наш выдатны, знакаміты паэт і першарадны празаік Масей Сяднёў. Масея Сяднёва й ягоныя творы я ведаю даўно. Усе іх маю ў сваёй бібліятэчцы. Першы, які мне давялося прачытаць у 1944 годзе ў Рызе, быў ягоны, поўны лірызму, верш «Домік у Менску». Пазьнейшыя паэтычныя творы Масея Сяднёва, напісаныя ім у эміграцыі, хоць і мастацкія, але поўныя суму, пэсымізму, безнадзейнасьці, зьняверы, якія можна назваць дэкадэнцкімі, аб чым сьведчыць хацяб выдадзены у 1955 годзе ў Нью-Ёрку зборнік вершаў паэта «Ля ціхай брамы». Ну, але я ня зьбіраюся пісаць пра творчасьць Масея Сяднёва, бо я не літаратурны крытык, а толькі хачу коратка напісаць пра згаданы вышэй ягоны артыкул.

Дык вось хачу сказаць, што артыкул, які я прачытаў з задавальненьнем, мне вельмі спадабаўся тым, што ягоны аўтар выказаўся ў ім, як шчыры, з болем у сэрцы, беларускі патрыёт. Аўтар піша, што падчас ягонае адведзінаў Бацькаўшчыны беларускія паэты й пісьменьнікі падаравалі яму «каля трох дзесяткаў сваіх кнігаў, пераважна з аўтографамі», штó яго, зразумела, вельмі ўзрадавала. Асабліва ён усьцешыўся тым, што сярод падараваных яму кнігаў — «гэта пераважна кнігі нашых новых, маладых аўтараў». Але ягоную радасьць азмрочвае турбота за іх. Яго турбуе «доля гэтых новых творцаў, бо-ж паўсталыя было магчымасьці свабоднага творства абярнуліся апошнімі часамі па сутнасьці немагчымасьцяй творчасьці ўва ўмовах — страшна сказаць — суцэльнай небеларускасьці», бо родная мова, на якой яны пішуць, «не ў пашане, або — што яшчэ горш — калі на ёй не гавораць». І таму кніжкі маладых аўтараў выдаюцца мізэрным тыражом, нават меншым, чымся кніжкі беларускіх эміграцкіх літаратараў, выдадзеных замяжой. Гэта, на глыбокі жаль, сумная, а нават трагічная рэчаіснасьць.

І так, Масей Сяднёў падняў трывогу аб беларускай мове. Раней рэдакцыя «Беларуса», у папярэднім (401-ым) сваім нумары, у зацемцы «Масей Сяднёў у 'Родным слове'» перадрукавала з часапісу «Роднае слова» ягоны палымяны зварот да настаўніка-чытача часапісу, каб ён ня даў памерці нашай «роднай, матчынай беларускай мове». І сапраўды, адзіная надзея, што яна не памрэ, у беларускіх настаўніках, якія выхоўваюць новае пакаленьне. Як сказана ў зацемцы «Беларуса», у навукова-мэтадычным месячніку Міністэрства адукацыі Беларусі «Роднае слова» «артыкул пра творчасьць Масея Сяднёва канчаецца гэткім абнадзейвальным абагульненьнем: 'Адраджаецца наша мова, адраджаецца літаратура. Адраджаецца не безь яго, Масея Сяднёва, чыннага ўдзелу'». За ўсё гэта Масею Сяднёву належыцца ўдзячнасьць беларускай грамадзкасьці.

Мне таксама хочацца закончыць гэты мой сьціплы допіс на аптымістычнай ноце. Як забытая расьцярушаным народам, адным з найстарэйшых у сьвеце, ягоная старажытная гэбрайская мова, мова Біблії, у нашыя часы адрадзілася й сёньня ёсьць дзяржаўнай мовай у Ізраілі; як забытая народам, пад шматвяковым панаваньнем Англіі у кельцкай Ірляндыі, ірляндзкая мова адрадзілася ў гэтым стагодзьдзі й сёньня ёсьць дзяржаўнай, так і наша родная беларуская мова — веру ў гэта — адродзіцца й будзе яна, і толькі яна адна, дзяржаўнай мовай у Беларусі.

**Уладзімер Брылеўскі**

---

Шчыра вітаем пісьменьніка, сябру й супрацоўніка

**МАСЕЯ СЯДНЁВА**

з 80-мі ўгодкамі плённага жыцьця, што споўніліся 1 верасьня сёлета, ды жадаем добрага здароўя і далейшага ўзьлёту творчае думкі на славу беларускай літаратуры і на спажыву маладому пакаленьню.

**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**
**Рэдкалегія «Беларуса»**

---

## АДКРЫЦЬЦЁ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



*Масей Сяднёў з унукамі — «карані» ў новай Бацькаўшчыне.*

Нязвычайная істота — чалавек: ягоная здольнасьць ужывацца. Пажыве дзе, і глядзі — пушчае сваё карэньне, прырастае, звыкаецца з дадзеным асяродзьдзем. І няма ніякага дзіва — гэткая ягоная здольнасьць дапамагае яму выстаяць, дзе-б ён ні апынуўся. Такая чалавечая якасьць асабліва ў добрай нагодзе эмігранту. Страціўшы сваю Бацькаўшчыну, ён змушаны шукаць сабе прыстанішча ў нейкай іншай краіне. Пашанцавала яму знайсьці яе, ён ня траціць часу дапасавацца да яе, і ня толькі дапасавацца, а й знайсьці ў ёй — наколькі гэта магчыма — сабе другую Бацькаўшчыну. І глядзі — чалавек ужо ўжыўся і на новым месцы, пусьціў карэньне: нарадзіў дзяцей, прырос пупавінай, а там — набыў і грамадзянства. Вы — болей як-бы не эмігрант. Вы ўжо ўжыліся, як кажуць вучоныя, у інфраструктуру вашай новай Бацькаўшчыны, авалодалі мовай, пазнаёміліся з гісторыяй, культурай і звычаямі вашай прыдбанай краіны, вы спасьцiглі псыхалёгію невядомага дасюль вам народу, і гэты народ стаўся ўжо для вас блізкім, сваім, вы палюбілі яго, у вас заіснавала зь ім гармонія і вы ўжо пачынаеце пакрысе забываць краіну вашага паходжаньня. Яшчэ мінаюць гады, і затушоўваецца твая старая Бацькаўшчына, ад яе ўжо бадай нічога не засталося ў тваіх пачуцьцях, ты ўжо выкрасьліў яе з сваёй памяці. Ты пражыў ужо паўстагодзьдзя на новай Бацькаўшчыне і старая ня сьніцца табе нават у снах. Ты зачыніў яе.

Але неспадзявана табе выдарылася нагода наведаць сваю старую, забытую ўжо Бацькаўшчыну. Ты ехаў да яе зь няпэўным адчуваньнем: што цябе сустрэне там? Ты насьцярожаны. Ты якбы сам ня свой. Ты пакінуў за сваімі плячыма прывычную, знаёмую ўжо табе новую Бацькаўшчыну, у якой засталіся твае дзеці, унукі, праўнукі і на могільніках якой спачываюць ужо твае крэўныя, а тут ты набліжаесься да чагосьці ўжо табе незнаёмага і няпэўнага. Ты разгублены. Але ты ўжо прызямліўся на некалі пакінутай табой зямлі. Не пасьпеў ты ступіць з самалёта на сходкі, як цябе агарнула лагода нейкага нязнанага дасюль павета. Ты ўдыхнуў яго, і ў цябе закружылася галава, ты на вокамгненьне як-бы перастаў існаваць. Зь неабсяжных прастораў тхнула п'янкім водырам скошаная трава. Знаёмая табе з маленства духмянасьць сена скаланула тваю душу далёкім успамінам. Яна азвалася незьясьнёнай радасьцю і салодка-шчымлівым болем. У бліжняй вёсцы засьпяваў певень, нібы прывітаў цябе. Ты пачуў знаёмую табе гамонку, і ты нібы прачнуўся зь бясконца доўгага сну. Гэтае «прачнуўся» і было раптоўным адкрыцьцём заглохлай было ў табе першароднай Бацькаўшчыны. Але чалавек — дзіўная істота. Тут-жа, трохі ацьверазелы, ты пачаў усьведамляць, што ў цябе-ж ёсьць, там за акіянам, другая Бацькаўшчына, дзе ты пакінуў сваіх крэўных і ты неспадзявана для сябе — распалавініўся, раздваіўся на дзьве няпрымірныя палавіны.

О, які гэта боль! Якое засмучэньне агортвае цябе! Ты тут і там. А гэта, можа быць, нідзе. Распалавініцца, значыць — страціць цэласьць.

1990

**Масей Сяднёў**

---

## БЕЛАРУСКАЯ РАДЫЁПРАГРАМА НА ЦЭЛУЮ АЎСТРАЛІЮ

Аўстралійская дзяржаўная тэлерадыёкарпарацыя спрыяе разьвіцьцю шматкультурнасьці аўстралійскага грамадзтва. Карпарацыя мае Адмысловую Службу Радыёвяшчаньня (Special Broadcasting Service — SBS), што дае магчымасьць кожнай этнічнай групе Аўстраліі мець сваю радыёпраграму. З гэтае магчымасьці карыстаюць 63 групы, у тым ліку і беларусы. Беларускія паўгадзінныя праграмы перадаюцца што два тыдні, але чутны яны толькі ў штаце Новая Паўдзённая Валія. З красавіка наступнага году час беларускай праграмы павялічыцца да гадзіны і перадавацца яна будзе штотыдня. Апрача таго, ужо распрацаваны плян, каб вяшчаньне радыёстанцыі SBS можна было слухаць па цэлай Аўстраліі.

Штат Беларускае рэдакцыі аднак вельмі малы — толькі адна асоба, сп. Вячаслаў Ельвановіч, які патрабуе ўсякае дапамогі (друкаванымі беларускамоўнымі матар'яламі, істужкамі — песьні, гутаркі, інтэрв'ю і г.д.).

Было-б вельмі карысна, калі-б тыя, хто мае дачыненьне да беларускіх перыядычных выданьняў, а таксама радыёвяшчаньня, пасылалі ў Беларускую рэдакцыю радыёстанцыі SBS у Сыдней матар'ялы, зь якіх сп. В. Ельвановіч мог-бы скарыстаць. Слаць трэба на адрас:

Belarusan Language Programme
SBS Radio Sydney
Locked Bag 028
Crows Nest NSW 2065
AUSTRALIA

Tel/Fax (international):
612 369-3790

## КУРС ГІСТОРЫІ Й ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІ НА КАЛЮМБІЙСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

Інстытут імя А. Гарымэна Калюмбійскага Ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку падаў да ведама ў кастрычніцкім нумары свайго бюлетэню, што др. Янка Запруднік будзе выкладаць курс «Гісторыя й палітыка Беларусі», пачынаючы зь вясеньняга сымэстру 1994 году.

## БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫМ СПОРЦЕ

Ад 14 да 22 жніўня сёлета ў нямецкім горадзе Штутгарце праходзілі міжнародныя спаборніцтвы па атлетыцы. Удзел бралі і беларускія спартсмэны, якія здабылі два сярэбраныя і два бронзавыя мэдалі. Гэта вялікае дасягненьне. Табліцу мэдалёў можна складаць па-рознаму. Калі-б лічыць паводле сумы здабытых мэдалёў, дык Беларусь са сваімі чатырма мэдалямі была-б на 10-м месцы.

У жніўні сёлета ў ангельскім горадзе Шэфільдзе на эўрапейскіх спаборніцтвах у плаваньні беларусы, хоць здабылі толькі адзін мэдаль, паказалі вялікі патэнцыял на будучыню.

**М. Швэдзюк**

## БЕЛАРУСІКА Ў КАЛЮМБІЙСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

У Гарымэнаўскім Інстытуце Калюмбійскага Ўнівэрсытэту адбыўся трохдзённы сэмінар на тэму «Паміж Расеяй і Нямеччынай: Усходняя Эўропа пасьля развалу СССР». У сэмінары ўзялі ўдзел дыпляматы з ААН, прадстаўнікі цэнтральна-эўрапейскіх урадаў, навукоўцы. 30 верасьня ў ліку дакладчыкаў др. Янка Запруднік ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва гаварыў пра беларуска-нямецкія й беларуска-расейскія дачыненьні ў мінуўшчыне і сучаснасьці.

15 кастрычніка др. Я. Запруднік прачытаў лекцыю ў Гарымэнаўскім Інстытуце на тэму «Беларусь паміж Польшчай і Расеяй». Лекцыя будзе часткай кнігі, заплянаванай на наступны год і прысьвечанай праблемам Цэнтральна-ўсходняй Эўропы.

## «СЬВІТАНАК» У РЫЗЕ

Латвійскае Таварыства Беларускай Культуры «Сьвітанак» выдала першы нумар свайго літаратурна-мастацкага часапісу беларусаў Латвіі «Сьвітанак». Нумар выйшаў дзякуючы дапамозе Мітрапаліта БАПЦ Мікалая і сп. Алеся Палескага ды Міністэрства інфармацыі Беларусі. Нумар ілюстраваны. На 14 старонках друку зьмешчаны артыкул Вячкі Целеша пра беларускіх мастакоў Латвіі; вершы Андрэя Гуцава; палітычны дэдэктыў у дакумэнтах (аб працэсе ў 1925 годзе над 8 беларускімі настаўнікамі); хроніка.

Гэты добры пачын латвійскіх суродзічаў заслугоўвае на ўсякую падтрымку. Пісаць можна на адрас:

Viačaslaŭ Celešs
Skuenes ielā, m. 9. dz. 16
Riga-55 LV-1055
Latvia

# КАНАДЗКІ ФОНД ДАПАМОГІ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАРУСІ

Ужо трэці год як горад Лёндан у правінцыі Антарыё спатыкае беларускіх дзяцей. Сёлета, як ніколі, спатканьне было ўрачыстае й цёплае. На пляцы тэлевізійнай станцыі аркестра спаткала прыбылых гасьцей. Дзяцей частавалі паджаранымі на агні гарачымі каўбаскамі, якія тут называюць «гарачымі сабачкамі» (hot dogs). Нашым дзецям было сьмешна есьці «гарачыя сабачкі». Пасьля вельмі цёплага спатканьня дзеці хутка разьехаліся па дамох, каб пачаць новае жыцьцё. Дзеці былі прынятыя ў школы, дзе яны адзначыліся вышэйшай ведай дакладных навукаў. У першую сыботу наш зямляк сп. Мікола Шуст гасьціў усіх на сваёй дачы над возерам Гюрон. Мы былі рады, што разам зь дзецьмі прыехала сп-ня Валянціна Вінакурава, якую тут усе вельмі палюбілі.

Дзеці прабудуць тут сем тыдняў. Кожнага тыдня арганізуем ім розныя імпрэзы, каб даць магчымасьць усім дзецям спаткацца ды пагутарыць на роднай мове. Ім даюцца таксама рэгулярныя лекцыі ангельскай мовы пры дапамозе Валянціны і сп-ні Галіны Морын, жонкі мясцовага праваслаўнага сьвятара.

Унівэрсытэцкая зубная клініка агледзіць усіх дзяцей і дасьць дармовае лячэньне тым, хто патрабуе. Таксама дзецям зробяць бясплатна агляд вачэй ды забясьпечаць акулярамі, калі будзе патрэба. Сябры мясцовых клюбаў дадуць дзецям спартовыя курткі й абутак. Адзін зь сяброў клюбу сп. Том Говінг — старшыня нашага аддзелу Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Менску. Зь нястомнай энэргіяй ён займаецца арганізацыяй побыту дзяцей ды асабліва зьбіраньнем фондаў на аплату выдаткаў у сувязі з іхным прыездам. Толькі аплата дарогі, візаў ды лекарскага агляду каштуе больш за 1000 даляраў на адну асобу. Я, як іхны лекар, пакуль што, на шчасьце, шмат работы ня маю. Выдаткі на месцы пакрываюць сем'і, якія госьцяць дзяцей.

Наш праект зь дзяцьмі зацікавіў мой Унівэрсытэт Заходняга Антарыё беларускай праблемай, і ён заняўся іншымі праектамі.

**Праект нр. 2.** У гэтым годзе 9 канадзкіх студэнтаў і 6 студэнтаў з нашага ўнівэрсытэту, а таксама 2 з унівэрсытэту ў Ватэрлё будуць вывучаць расейскую мову ў Дзяржаўным Пэдагагічным Інстытуце ў Менску. У будучыні мы плянуем запрасіць беларускіх студэнтаў на навуку ў нашым унівэрсытэце.

**Праект нр. 3.** Наш Фонд даручыў мне арганізаваць візыты беларускіх лекароў у Антарыё дзеля азнаямленьнея з нашымі мэтадамі лячэньня хваробаў спрычыненых радыяцыяй.

**Праект нр. 4.** Факультэт адукацыі разам з праф. Натальляй Баранавай зь Менскага інстытуту і праф. Робэрт Клярк з факультэту адукацыі апрацоўваюць новую праграму для сярэдніх школаў Беларусі.

**Праект нр. 5.** Др. Джэральд З. Райт з факультэту дэнтыстыкі разам з др. Эдуардам Мельнічэнкам, дырэктарам дзіцячага дэнтыстычнага аддзелу пры мэдычным інстытуце ў Менску падрыхтоўваюць плян адчыненьня ў Менску дэнтыстычнае клінікі з мэтай навучаньня сучасных мэтадаў лячэньня; таксама плянуецца абмен студэнтамі паміж нашым і менскім унівэрсытэтамі.

**Праект нр. 6.** Наш унівэрсытэт плянуе запрасіць высокакваліфікаваных настаўнікаў зь менскага дзяржаўнага інстытуту, каб даць тут курсы для нашых студэнтаў і ўзамен пасласць нашых выкладчыкаў з той самай мэтай у Менск. Мы тут ужо мелі гэтым летам др. Дзьмітра Козікса, які даў курс расейскае гісторыі. Я асабіста правёў даволі часу зь ім, каб ацаніць ягоныя высокія кваліфікацыі ды пазнаць як чалавека. Праф. Юры Стулаў, спэцыяліст па ўсходнеэўрапейскай ды расейскай фільмовай індустрыі, дасьць курс летам 1994 году на нашым унівэрсытэце.

**Праект нр. 7.** Факультэт ангельскай мовы арганізуе 25 кастрычніка сёлета фэстываль беларускіх і расейскіх фільмаў. Др. Стулаў і Юры Ельноў будуць прысутныя, каб даць камэнтары, а таксама пакажуць дакумэнтальны фільм пра Чарнобыль.

**Праект нр. 8.** Наш аддзел Канадзкага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі заняўся праектам пасласць каля 100 спэцыялістаў па бізнэсе ў Менск для азнаямленьня беларускіх студэнтаў з асновамі вольнага прадпрымальніцтва.

Будзем мець надзею, што нашы пляны споўняцца на карысьць як беларусам, гэтак і канадцам.

**Б. Рагуля, мэдычны дырэктар Фонду**

# БЕЛАРУСКАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У ААН

Стараньнямі Міністэрства замежных спраў РБ і Беларускай місіі пры ААН 30 верасьня ў адным з будынкаў Аб'еднаных Нацыяў адбыўся ўрачысты вечар, прысьвечаны памяці клясыка беларускае літаратуры Максіма Гарэцкага з нагоды 100-годзьдзя ад ягонага нараджэньня. На вечары выступіў з прамовай Міністар замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка. Было шмат дыпляматаў, амэрыканскіх гасьцей, у тым ліку суайчыньнікаў-жыхароў Амэрыкі. Урачыстасьць закончылася канцэртам ансамблю «Сябры», што выступіў з новай праграмай, у якой прагучэлі матывы эміграцкага быту і лучнасьці амэрыканскіх беларусаў са старой Бацькаўшчынай.

У часе прыняцьця была добрая нагода наладзіць знаёмствы, замацаваць сувязі, а прыхільнікам папулярных «Сяброў» — набыць касэткі зь іхнымі песьнямі.



*Выступаюць «Сябры» пад бурныя воплескі ў тэатральнай залі ААН.*

## У ААН ПРА АБАРОНУ БЕЛАРУСАЎ

Міністар замежных спраў РБ Пётр Краўчанка ў сваім выступленьні на Генэральнай Асамблеі ААН 29 верасьня сёлета сказаў:

«Беларусь стварае ўсе ўмовы для захаваньня правоў нацыянальных меншыняў, што жывуць на ейнай тэрыторыі. Але для нас далёка неабыякава і стаўленьне да беларусаў, што жывуць за межамі нацыянальнай тэрыторыі. Мы будзем у будучыні ўважліва сачыць за палажэньнем больш чымся двух мільёнаў этнічных беларусаў, што жывуць у розных дзяржавах сьвету».

# ПОБЫТ ДЗЯЦЕЙ ЗЬ БЕЛАРУСІ (ЧАРНОБЫЛЬСКІХ?) У АЎСТРАЛІІ

Беларусы Аўстраліі, спачуваючы ахвярам чарнобыльскае катастрофы на Беларусі, стварылі пры Выканаўчым Камітэце Фэдэральнай Рады Чарнобыльскі Фонд дапамогі пацярпелым. Можна сказаць, што палавіна нашых суродзічаў адгукнулася на заклік Фэд. Рады і такім чынам сабралі 37 тысячаў даляраў. За гэтыя грошы закупілі аднаразовыя шпрыцы, рэнтгенную машыну для дзіцячага шпіталя ды харчы й шакалад і ўсё даставілі ў Гомельскую абласную больніцу праз свайго пасланца. На гэтым, аднак, пачатая праца ня скончылася.

Падхапілі ініцыятыву бацькоў маладыя людзі пры царкве БАПЦ у Мэльбурне, правялі баль і розныя іншыя імпрэзы; такім чынам Чарнобыльскі Фонд дзейнічае й па сёньня.

Пачалі заходы, каб прывезьці дзяцей з чарнобыльскай зоны, а менавіта з Гомельскай і Магілёўскай вобласьцяў, але ніяк не маглі наладзіць сувязь з арганізацыямі «Дзеці Чарнобыля». Нарэшце адгукнуўся сп. Г. Грушавы, які сказаў, што ён прывязе дзяцей, але на гэта патрабуюцца вялікія грошы. А так як людзі нашы ўсе ў пажылым веку, пэнсіянеры, дык яны сказалі, што ім гэта не пад сілу. У прэсе тым часам зьявіліся недабразычлівыя водгукі пра сп. Грушавога. Так справа і засталася.

І вось з паўгода таму наладжвае лучнасьць з Выканаўчым Камітэтам Фэдэральнае Рады сп. Валеры Лісітчын, дырэктар экалягічнае мэдыцыны гор. Магілёву. Знайшоўшы нумар тэлефону старшыні ВКФР сп. А. Грушы, ён стаў прасіць, каб беларусы заапекаваліся дзецьмі, якіх ён прывязе. Сп. Груша стаўся каардынатарам гэтай справы і даў згоду на 15 дзяцей і двух праваднікоў на восем тыдняў, ад 1-га красавіка па 27 траўня 1993 году. Дзеля нейкіх прычынаў, аднак, прыехала толькі дзесяцёра дзяцей (4 хлопчыкі й 6 дзяўчатак) па 9 і больш гадоў. У групе быў і сам дырэктар сп. В. Лісітчын, а таксама ягоная дачка і сын; двух хлапцоў былі дзядзька і пляменьнік. Людзі разабралі гэтую групку дзяцей, хоць, калі прыехалі на аэрапорт (зь беларускім нацыянальным сьцягам, кветкамі і ласункамі) спатыкаць іх, усе расчараваліся, бо дзеці паказаліся нейкімі адчужанымі і, проста сказаць, ігнаравалі сваіх прыдбаных апякуноў, да якіх прыехалі жыць на восем тыдняў.

Ніводнае дзіцё не гаварыла хоць адно слова па-беларуску. Мала таго, проста сьмяяліся зь бедных старыкоў і калі ім проста ў вочы, што, маўляў, ня буду гаварыць «на этом корявом языке». Такім чынам, усім старэйшым людзям, якія расейскае мовы ня ведаюць, а некаторыя зь іх, каб ураtaваць сваю мову й культуру, пакінулі Бацькаўшчыну, давялося выслухоўваць дакоры за іхны «корявый язык».

Думалася, што паможацца бедным дзеткам чым можна, але выйшла ўсё наадварот. Дайшло да таго, што людзі, ня вытрываўшы зьдзеку, адвезьлі трое дзяцей да каардынатара.

Наладжвалі ўсякія экскурсіі па музэях, у заалягічным садзе, на моры, з параходу аглядалі гістарычныя мясьціны гораду, наладжвалі спатканьні з грамадзкасьцю, прывезьлі ў нашу царкву, школу. Але ўсё гэта гэтых дзяцей ня цікавіла, яны адыходзілі ад людзей і сядалі граць у карты. Калі завезьлі ў царкву, ніводнае не пастаяла хоць якіх пару хвілін, а ўсе падаліся надвор.

Калі-ж сказалі ім, што павязём у спэцыяльную клініку на праверку, то ўсе заявілі, што «мы ня хворыя». Усёткі павезьлі ў клініку і выявілася, што ніводнае дзіцё ня мела радыяцыі. На пытаньне праваднiку, чаму прывезьлі дзяцей зусім здаровых, а ня тых, што патрабуюць лекаваньня, адказ быў: «Як можна хворых дзяцей везьці?»

Пасьля выявілася, што з гэтых дзяцей некаторыя былі ўжо па два ато й тры разы ў розных краінах, а сам праваднік і яго сям'я другі раз ужо ў Аўстраліі ды што гэта дзеці багатых бацькоў. Чаму-ж тады бюракраты робяць вялікія выдаткі з чарнобыльскага фонду на здаровых дзяцей, а бедныя, якія запраўды патрабуюць дапамогі, застаюцца незаўважанымі ані ўрадам РБ, ані Міністэрствам аховы здароўя?

Як мы даведаліся ад нашых суайчыньнікаў са Сьветлагорску, адбылося тое, што мы прадчувалі аднесна дзяцей, якіх мы трымалі на працягу 8-х тыдняў: гэта дзеці людзей, што займаюць высокія пасады. Калі хворае дзіцё трапіла на сьпісак і здало ўжо фатакартачкі на пашпарт для выезду, тутжа падстаўляюць на ягонае месца дзіцё дырэктара ці доктара, а беднае пакідаецца на волю лёсу. Пагаворка, што блат вышэй за Саўнарком застаецца і надалей у сіле.

Бедныя людзі просяць нас за мяжой, каб мы паспрыялі ім ды напісалі да міністра аховы здароўя, пусьцілі па газэтах аб тым, што робіцца.

Вярнемся яшчэ да старой казкі, якую паважаны дырэктар В. Лісітчын хоча ажыцьцявіць у наступным годзе і прывезьці 30 дзяцей на пяць месяцаў павучыцца ў школах Аўстраліі. Цяпер ён шукае каардынатара, які мог-бы правесьці гэта ў жыцьцё. Сярод аўстралійцаў, нам здаецца, яму ўжо ня ўдасца, а калі і ўдасца, дык прывязе такіх, якія былі. Такім дзецям што ты ні зрабі, яно табе не падзякуе і ласкавага слова ня скажа, як гэта было на аэрапорце — ніводнае дзіцё не падышло і не сказала: ну, вось, мае дарагія, я шчыра дзякую вам, што мяне дагледзелі ды накуплялі падарункаў. Гэткага ня было. А кожнае-ж паехала з поўнымі валізкамі і добра адзетае.

Мэльбурн, Аўстралія

**Паўлюк Дуброўскі**

Шчыра вітаем грамадзкага й палітычнага дзеяча, сталага супрацоўніка «Беларуса»

**ВАСІЛЯ РУСАКА**

зь 70-мі ўгодкамі працавітага жыцьця, што спаўняюцца 15 лістапада сёлета, ды жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў працы на беларускай нацыянальнай і рэлігійнай ніве.

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Рада Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**
**Парафія царквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н.-Дж.**
**Управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**
**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**
**Рэдкалегія «Беларуса»**

# АЛЕГ МАХНЮК

**Гутарка з мастаком на ўсе рукі**

**Янка Запруднік:** Алег, Ты з Шаркаўшчыны. Чым яна найбольш славілася?

**Алег Махнюк:** Мая ваколіца — я зь вёскі Амбросінка — славілася адбіўнымі дыванамі, кавалямі. У Амбросінцы было чатыры кузьні над ракой Янкай. Кавалі там выраблялі, на мой тады розум, немагчымыя рэчы: акоўвалі калёсы, сані, выраблялі збрую для коней, цуглі і ўсё іншае. Я, малы, прыглядаўся да ўсяго гэтага і дзіву даваўся.



*Алег Махнюк ля вынікаў працы рук сваіх на сваім двары. Пачатак 1970-х гадоў.*

Мой бацька быў майстрам па дрэву, а калі што акаваць трэба было, дык вёз у кузьню. Што мне там найбольш імпанавала, дык гэта работа з жалезам — нагрэюць яго, звараць і выходзіць абруч!



*Іканастас царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры Алегавай работы.*

Мае бацькі мелі 18 гэктараў зямлі, будынкі, жывёлу. А пасьля яны абзавяліся ваўначоскай. Гэта машына, хоць і без матору — вялікі барабан, многа валкаў са шчоткамі; яе трэба было круціць рукамі, але гэта была цэлая машына.

**З.:** У вас авечкі былі?

**М.:** Былі, але й суседнія людзі прыходзілі воўну часаць да нас. Яны зьбіраліся, займалі чаргу, прыходзілі з калаўротамі, бо пакуль тую воўну ў кудзелю расчэшуць, дык патрэбен быў час. Пры гэтым былі там і песьні, і расказы, пагаворкі. Я тады быў малы, але да ўсяго гэтага прыглядаўся, прыслухоўваўся. Шмат з таго, што я тады бачыў і чуў, у тым ліку й многа пагаворак, засталося ў памяці. Цяпер як падумаеш пра ўсё гэта, дык бачыш, наколькі тыя пагаворкі былі маральна значныя.

**З.:** Ты кажаш бацька твой быў майстрам па дрэву...

**М.:** Ён быў столярам. А дзядзька мой па матцы — ён у Петраградзе жыў пэўны час — дык той і балалайкі рабіў і іншыя далікатныя рэчы.

**З.:** У пачатковую школу Ты дзе хадзіў?

**М.:** У Амбросінцы, у сваёй вёсцы.

**З.:** А далей дзе вучыўся?

**М.:** У 1992 годзе бацька мяне завёз у Паставы, у Беларускую настаўніцкую сэмінарыю, там я прабыў дакуль можна было, і адтуль выехаў з Бацькаўшчыны. Мне было тады 15 гадоў.

У Нямеччыне да капітуляцыі мне павязло, бо я быў увесь час зь беларусамі. Там пачалі выкарыстоўваць мае здольнасьці.

**З.:** А калі Твае мастацкія здольнасьці пачалі выяўляцца?

**М.:** Пасьля капітуляцыі я апынуўся ў ангельскай зоне Нямеччыны. Там не адразу мы пачулі пра беларускія лягеры ДП (для перамешчаных асобаў), але пасьля перабраліся ў беларускі лягер Ватэнштэт. У Ватэнштэце было многа беларускай інтэлігенцыі: настаўнікі, паэты, артысты. Там я пісаў плякаты, рабіў ілюстрацыі да часапісу «Шляхам жыцьця». Тры гады ён выходзіў, рэдагаваў яго пакойны Хведар Ільляшэвіч (загінуў у аўтамабільнай аварыі). Ільляшэвіч вельмі любіў моладзь, і я там у яго быў ілюстратарам. Калі ў лягер прыяжджалі якіянебудзь ангельскія госьці, мне даручалі ўпрыгожваць альбомы рознымі віньеткамі. І кожны дзень было нешта новае. Выдалі мы там шэраг скаўцкіх паштовак. Была выдадзеная калядная паштоўка, ужо ў калёрах. У той час у Нямеччыне выдаць паштоўку ў калёрах было няпроста.

Выдалі мы таксама шэраг паштовак з нашымі паэтамі, дзеячамі: Купала, Колас, Кастусь Каліноўскі і інш.

**З.:** Ці Ты падпісваў свае ілюстрацыі?

**М.:** Так. Аднойчы трапіла мне ў рукі польская кніжка «Цуда Польскі», гляджу — а там мой рысунак Кастуся Каліноўскага, выразна з маймі ініцыяламі.

У Ватэнштэце я скончыў гімназію і адтуль у 1950 годзе выехаў у Амэрыку.

**З.:** Адразу ў Саўт-Рывэр?

**М.:** Так. Тут я адразу знайшоў што рабіць. Уладзіўся на працу ў Фордаўскай кампаніі. Але ня мінула і году як мяне, паклікалі ў амэрыканскую армію. Гэта было падчас Карэйскай вайны. Месца працы ў Форда засталося за мной, стажу я ня страціў. У Карэі прабыў два гады.

**З.:** Карэя цяжка далася?

**М.:** Ну, я на гэта глядзеў як на адукацыйнае падарожжа. Дзякаваць Богу, абыйшлося без пашкоджаньняў. Але, як і кожная вайна, Карэйская ўражаньні пакінула, толькі што ў маладым веку гэта лёгка сходзіць.

Вярнуўшыся з Карэі, пайшлоў ізноў у Фордаўскую кампанію рабіць. У 1954 годзе ажаніўся, і пачалася ўжо зусім іншая сыстэма жыцьця.

Беларускі асяродак у Саўт-Рывэры быў даволі вялікі, ладзіліся розныя беларускія імпрэзы, канцэрты — чаго цяпер няма. Тады было людзей! Было й занятку: даводзілася маляваць дэкарацыі, афармляць, рабіць усё, што зьвязана з пэндзлем і хварбай.

**З.:** Гэтая дэкарацыя на сцэне ў цяперашнім Беларускім цэнтры — беларускі краявід — гэта Твая?

**М.:** Мая.

А пасьля, калі зарганізавалі камітэт пабудовы царквы, дык я быў актыўным у камітэце: зрабіў праект царквы, паводля якога архітэктар выпрацаваў пляны; сваймі рукамі зрабіў купал на сваім двары; зрабіў таксама іканастас паводля свае формы.

Мне павязло, я стаўся папулярным. Зрабіў пяць іканастасаў: у цэрквах у Саўт-Рывэры, у Гайленд-Парку, у Бэлер-Менску, у Пэнсыльвэніі, у Нью-Брансьвіку (у расейскай царкве).

**З.:** А гэтая мазаіка сьпераду на франтоне царквы ў Саўт-Рывэры — гэта таксама Твая работа?

**М.:** Так, і гэта я зрабіў.

**З.:** Ну, і цяпер, калі Ты йдзеш сьпяваць у царкоўным хоры ў саўтрывэрскай царкве і глядзіш на свой купал, якія гэта ў Цябе выклікае пачуцьці?

**М.:** Задаваленьне, вялікае задаваленьне, ніякай гордасьці няма, проста радуюся, што сваймі рукамі зрабіў гэта, проста радасьць. Прыемна, што спатрэбіліся мае здольнасьці.

**З.:** Ці Ты думаеш калі-небудзь паехаць у сваю Шаркаўшчыну?

**М.:** Наступны год паедзем з жонкай. У мяне тут пляменьніца была зімой.



*Ля дому і ў доме Алега й Людмілы Махнюкоў статуі, статуэткі, барэльефы, абразы — усё напамінае Бацькаўшчыну. На здымку — фурманка (дрэва) Алегавай работы канца 1980-х гадоў.*

**З.:** У Цябе яшчэ якія сваякі на Бацькаўшчыне? Браты? Колькі вас дзяцей у сям'і было?

**М.:** Трое сыноў. Адзін загінуў пад Варшавай, а другі ў Беларусі памёр пасьля чарнобыльскага выпадку.

**З.:** Твая жонка Люда таксама мастачка, дык і вашыя двое дачок, Нона і Аліса, напэўна, атрымалі ў спадчыну таленты бацькоў?

**М.:** Яны маюць талент, але вырасьлі ўжо ў амэрыканскай традыцыі і зацікаўленьні ў іх ужо зусім іншыя.

**З.:** Дзякую, Алег, за гутарку.

*З жыцьця ў Канадзе*

## НОВЫ СЬВЯТАР БАПЦ

Рэдкая падзея адбылася ў парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. 12 верасьня адбылося рукапалажэньне дыякана Міраслава Вайцюка ў сан ерэя — падзея вельмі важная як для нашай парафіі, гэтак і для цэлай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Дыякан Міраслаў ужо служыць пры Ўладыку Мікалаю ад Вербнай нядзелі сёлета. Прыбыў ён у Канаду зь Беластоку, дзе і нарадзіўся. Незважаючы на малады век, ён не пакінуў свае роднае мовы і даволі лёгка ёю паслугоўваецца. За кароткі час добра апанаваў і беларускую мову ў царкоўнай службе. Ягоны прыгожы малады голас надае баласлужбе належнае гучаньне.

Урачыстасьць рукапалажэньня адбылася пры вялікай грамадзе вернікаў. Архірэйская багаслужба пад кіраўніцтвам Уладыкі Мікалая і ў асысьце а. Міхася Страпка, дыякана Міраслава, іпадыяканаў Рамана і Аляксандра ды прыслужніка Марка, праходзіла вельмі плаўна. У царкве стаяла цішыня, прысутныя лавілі кожнае слова ўрачыстасьці. Па заканчэньні сьв. Літургіі, многалецьця і «Магутны Божа» а. Міраслаў вітаўся зь вернікамі і ўпяршыню даваў ім цалаваць сьв. Крыж.

Урачысты банкет адбыўся ў адноўленай і прыгожа ўдэкараванай залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. Апрача вернікаў і колькіх беларусаў-прыхільнікаў парафіі, на ўрачыстасьці былі госьці са Злучаных Штатаў: а. Міхась Страпко, Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч, сп. Кастусь Калоша, сп-тва Тацьцяна і Васіль Плескачы. Старшыня парафіяльнай рады сп. Аляксандар Нікановіч даў слова з прывітаньнем нававысьвечанага сьвятара аўтару гэтых радкоў. Апрача добрых пажаданьняў а. Міраславу, я яму сказаў, што будзе на ягоным шляху шмат і цяжкасьцяў і задаваленьня. Яму трэба будзе добра вывучыць беларускую мову, пазнаць патрэбы беларускага жыцьця на эміграцыі і на бацькаўшчыне ды адначасна быць добрым пастырам. Але цяжкасьці гэтыя будуць пераадоленыя, у чым яму паможа любоў да Бога і свайго беларускага народу.

З прывітальнымі словамі выступілі др. Раіса Жук-Грышкевіч, др. Язэп Сажыч, сп. Васіль Пляскач, сп. Рыгор Беразоўскі, сп. Барыс Кірка, Уладыка Мікалай і шмат іншых. На заканчэньне выступіў з падзякай і заключным словам а. Міраслаў.

Людзі пакідалі ўрачыстасьць зь вялікім задаваленьнем і надзеяй, што жыцьцё парафіі БАПЦ у Таронта будзе працягвацца ў належным кірунку. Праўда, некаторыя з прысутных да ўсяго гэтага мерапрыемства паставіліся зь недаверам і засьцярогамі што да будучыні БАПЦ у Канадзе і на эміграцыі наагул. Трэба аднак думаць і спадзявацца, што пасьля нас прыйдуць новыя людзі, якія будуць працягваць нашу беларускую справу так, а можа і лепш, як гэта рабілі нашы папярэднікі і рабілі мы. Дапамажы нам Божа.

**Мікола Ганько**

*З жыцьця ў Чыкага*

### НА СЬВЯТКАВАНЬНІ ЎКРАІНСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

Др. Вітаўт Рамук і сп-ня Вера Рамук былі гасьцямі ад беларускае грамады Чыкага на сьвяткаваньні другіх угодкаў незалежнасьці Ўкраіны 24 жніўня. Прыняцьце ладзіў украінскі консуль у Чыкага, добры знаёмы шэфа Беларускае місіі пры ААН сп. Генадзя Бураўкіна. На шыкоўным прыняцьці было шмат дыпляматаў, украінскіх дзеячоў і прадстаўнікоў ад суседніх з Украінаю народаў.

### БЕЛАРУСАВЕДНЫЯ ЛЕКЦЫІ Ў ЛЁНДАНЕ

На працягу 1993-94 акадэмічнага году адбудзецца 28-ы гадавы курс беларусаведных лекцыяў Англа-Беларускага Таварыства (старшыня — выкладчык Лёнданскага Ўнівэрсытэту Джэймс Дынглі), які чытаецца ў лёнданскай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны. Лектарамі й тэмамі ў гэтым годзе будуць: Г. Пікарда — «Напалеон і Беларусь» (20.X); В. Рыч — «Літаратурныя ўгодкі Беларусі: роздум і чытаньні на 1993 год» (15.XII); В. Рыч — «Сенькоўскі, Полацак і сувязь зь Ісьляндыяй» (12.I); а. А. Надсон (тэма будзе абвешчана) (люты/сакавік); праф. А. Макмілін — «Супрацьў і пакора: сьляды сацыялістычнага рэалізму ў сучаснай беларускай літаратуры»; Дж. Дынглі — «Беларусь: перахоўваньне культурнае спадчыны» (15.VI).

*З жыцьця ў Саўт-Рывэры*

### КАНЦЭРТЫ «СЯБРОЎ»

Ансамбль «Сябры» даў 10 кастрычніка канцэрт у Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры. Канцэрт прайшоў пры поўнай залі і зь вялікай удачай. Сярод слухачоў былі Міністар замежных справаў РБ Пётр Краўчанка, шэф Беларускай місіі пры ААН Генадзь Бураўкін і сп-ня Юля Бураўкіна.



*Слухачы канцэрту «Сяброў» у залі Беларускага Цэнтру. У першым радзе сядзяць: сп. Міхась Бахар, сп. Пётр Краўчанка, Міністар замежных справаў РБ; сп. Генадзь Бураўкін, шэф Беларускай місіі пры ААН; сп-ня Юля Бураўкін. Фота Надзі Кудасавай.*

«Сябры» выступілі таксама зь песьнямі ў тэй самай залі на парафіяльным пікніку прыходу царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай 17 кастрычніка, арганізаваным з нагоды сьвята Пакроваў царкоўнай радай і сяструцтвам парафіі.

Частку праграмы пікніку вёў сп. Міхась Бахар. Ён прадставіў прысутным удзельнікаў ансамблю «Сябры»: Анатоль Ярмоленка — кіраўнік, Алеся Ярмоленка, Валеры Разанаў, Мікалай Сьцяпура, Зьміцер Яўтуховіч і Сьвятаслаў Ярмоленка.

Сп. Бахар прывітаў прысутных на залі матушку Галіну Брынкевіч (маці настаяцеля прыходу, а. Мечыслава) і новага рэгента прыходу Ірыну Мозылеву, якая займаецца цяпер у ведамай музычнай школе Джуліярд у Нью-Ёрку.

Удзельнікі сустрэчы прасьпявалі «Многая лета» на дзень народзінаў спсп. Міхася Палюховіча і Міхася Бахара.

Была разыграная багатая лятарэя. Весяліў прысутных на акардыёне сп. Іван Альхоўскі.

Сустрэча зь «Сябрамі» ды іхныя лірычныя, патрыятычныя, вясёлыя й заліхвацкія песьні стварылі запраўды прыемную сяброўскую атмасфэру, якою цешыліся ўсе гасьцінныя саўтрывэрцы ды іхныя госьці.

**Я.З.**

## ВАРТА ГАНАРЫЦЦА ЎСІМ ЗА АДНАГО

### Чэмпіён пінг-понгу Паўло Бурдзь



*Сп. Паўло Бурдзь (зьлева) са сп. Астранскім, прадстаўніком места Вініпэг падчас уручэньня чашы чэмпіяната.*

Мне давялося быць у сп. Паўла Бурдзя ў хаце. Калі ўвайшоў у ягоны пакой, дык цяжка было паверыць сваім вачам — усе лаўкі-паліцы і сьцены ўстаўленыя й абвешаныя трафейнымі чашамі, як групавымі, гэтак і асабістымі, а таксама пахвальнымі дыплёмамі. У гутарцы з Паўлам даведваюся, што яшчэ бышы ў Нямеччыне ён браў актыўны ўдзел у гульні ў пінг-понг.

Калі Паўло прыехаў у Канаду ў 1953 годзе, умовы жыцьця ня былі лёгкія, аднак, незважаючы на цяжкасьці, ён стараўся наладзіць сувязь, хоць арганізацыі яшчэ ня было. Па нейкім часе ўдалося навязаць лучнасьць з Украінскім клюбам, да якога ён далучыўся, і стараньнямі Паўла арганізуецца дружына, у якой ён стаўся капітанам. Пад умелым кіраўніцтвам Паўла дружына брала ўдзел у розных спаборніцтвах і заўсёды выходзіла чэмпіёнам. Ды ня толькі Паўло выдатна спраўляўся ў групе, але выходзіў пераможцам і ў індывідуальных спаборніцтвах. Ужо ў сэзоне 1962-63 году Паўлова дружына здабыла чэмпіянат правінцыі, а ў 1991 годзе сп. Паўло Бурдзь асабіста заваяваў першае месца на зімовым фэстывалі ў ЗША.

Калі падлічыць Паўловы асабістыя дасягненьні ў пінг-понгу на працягу ўсяго часу, дык выйдзе, што граў ён у 26 лігавых матчах ды ў 4 матчах на мясцовы чэмпіянат, дадаткова браў удзел у 12 падвойных матчах і ўва ўсіх гэтых спаборніцтвах прайграў толькі ў трох матчах. Вынік: 90 працэнтаў выйгрышных змаганьняў, гэта значыць найвышэйшае дасягненьне ў асабістым заліку ў гэтай лізе.

Праўда, гады ідуць. «Хоць і далей цікаўлюся гэтым спортам», кажа Паўло, «але ўжо цяжка сачыць за рухам мячыка». Аднак пастанавіў яшчэ раз ўзяць удзел у змаганьнях, і спрытнаму беларускаму спартсмэну Паўлу Бурдзю ўдалося здабыць яшчэ адну чашу Манітобаўскае Асацыяцыі Настольнага Тэнісу на сэзон 1992-93 году. Гэта ягоны вялікі высілак і заслужаная ўзнагарода на адпачынак.

Мы ўсе жадаем сп. Паўлу Бурдзю добрага здароўя, вясёлага й шчасьлівага жыцьця. Мы, беларусы, ганарымся, што наш суродзіч праз гады высока трымаў сьцяг перамогі... Слава Табе, Паўло!

**В.Г.**

## *НА АДЗІН КАРОТКІ МОМАНТ У ПРУЖАНАХ*

*(Працяг; пачатак у № 405)*

Хаджу сама па знаёмых ужо вуліцах: Шарашоўскай, Брэсцкай, каля Прачысьценскай царквы (якое цяпер няма, але яе дух жыве), па вуліцы Доктара Пацэвіча. Там зь левага боку стаіць яшчэ з чырвонай цэглы колькіпавярховы будынак колішняй пачатковай школы, дзе здабывала я першую навуку. Заходжу на панадворак, дзе мы гулялі на перапынках. Усё амаль як і было. Далей з правага боку Пацэвіча калісь была наша гімназія Адама Міцкевіча. Яе ўжо няма. Замік яе на іншым месцы пабудавалі новую школу, кажуць, якіх 10 гадоў таму назад, і яна ўжо месцамі з трэшчынамі ў сьцяне развальваецца, а, мусіць стагодняя, пачаткавая школа стаіць сабе хоць бы што і гатова яшчэ столькі-ж часу стаяць. Пружанскі парк і замак Графіні захаваліся, замак у працэсе рэстаўрацыі.

Сабор-царква Аляксандра Неўскага. Дзьверы адкрытыя, заходзім. Праводзяцца рамонты, высокія рыштаваньні, а на іх высачэзна стаіць жанчына й малюе столь, і ўнізе завіхаюцца жанчыны. Расказваюць нам, як жанчыны абаранілі царкву ад бульдозэраў. Праз цэлы тыдзень дзень і ноч вартавалі з запаленымі ў руках сьвечкамі, і як толькі зблізкаліся бульдозэры, «баба (расказвае пружанец) на званіцы б'е ў званы, а званіц-жа было забаронена...» У саборы паказалі мне ікону з Прачысьценскае царквы. У часе вайны царква згарэла, а сьвятая ікона ў полымі ўцалела... Перад Другой сусьветнай вайной у саборы на іконе Маці Божая плакала. Хто верыў, а хто й не... а сьляза з вачэй цякла й цякла...

У нядзелю прыйшла я ў царкву на багаслужбу. Усе жанчыны ў хустках на галаве. Дзе калісьці ўрадаваў важны

*(Працяг на 7-й ст.)*

## НА АДЗІН КАРОТКІ МОМАНТ У ПРУЖАНАХ

*(Заканчэньне з 6-й ст.)*

старраста, жанчына прадавала сьвечкі. Даю ёй некалькі са зьвяркамі грошаў і прашу даць мне за іх сьвечак. Жанчына дала мне іх тры. Як калісьці, паставіла я сьвечкі перад іконай, што на аналоі, з малітвай за супакой душ бацькоў, братоў і дзядоў маіх.

Багаслужба адбывалася на старабаўгарскай, ці інакш на царкоўна-славянскай мове. Сьпяваў хор, як выдавалася, з самых жанчын бяз рэгента. Чытаць Апостала выйшла, як і трэба, на сярэдзіну царквы перад аналоем жанчына ў хустачцы на галаве. Прачытала Апостала на нікому незразумелай той-жа старабаўгарскай мове. Ніхто не разумеў і слоў Сьвятога Евангельля. Вернікі не разумелі, што да іх гаварыў апостал Павал, што да іх гаварыў Хрыстос. Не разумелі, але ведалі, што ўсё, што чулі, было сьвятое.

Міжвольна прыходзіць у галаву параўнаньне. Праз тыдзень, у нядзелю, давялося мне быць на багаслужбе ў Менску, у беларускай грэка-каталіцкай царкве. Там усё, абсалютна ўсё, адбывалася на беларускай мове. І сьвятар, айцец Ян Матусевіч, і звонкі малады дыякан, і хор — усе маліліся, чыталі й пяялі па-беларуску. Вернікі слухалі й слова ў слова разумелі, як апостал Павал калісь навучаў Карынцянаў, а цяпер навучае нас, разумелі слова ў слова й перажывалі скіраваныя да іх у Сьв. Евангельлі словы самога Ісуса Хрыста. Вернікі разумелі багаслужбу, разумелі, перажывалі й бралі ў ёй удзел. Пяяў хор, але пяялі і ўсе прысутныя. А перад сьв. эўхарыстыяй-прычасьцем, усе хорам гаварылі малітву:

«Веру, Госпадзе, і вызнаю, што Ты сапраўды Хрыстос, Сын Бога жывога, што прышоў у сьвет збавіць грэшнікаў, сярод якіх я самы першы. Веру таксама, што гэта сапраўды Тваё Сьвятое Цела й Пачэсная Кроў. Малюся Табе: зжалься нада мною і даруй мне мае правіны вольныя і міжвольныя, якія я зрабіў словам і ўчынкам, сьведама й нясьведама; і дай мне без асудженьня прыняць Твае сьвятыя Тайны для адпушчэньня грахоў і жыцьця вечнага.

«Зрабі мяне сяньня, Сыне Божы, удзельнікам Тваёй тайнай Вячэры; я ня здраджу ворагам Тваёй тайны і ня дам пацалунку, як Юда, але як разбойнік вызнаю Цябе: успомні мяне, Госпадзе, у валадарстве Тваім...».

Якая прыгожая, глыбокая малітва! Калі яе разумееш і сам гаворыш перад прычасьцем, тады й прычасьце і ўся літургія набірае сапраўднага глыбокага значэньня й дадае Табе духовай, так патрэбнай чалавеку, сілы.

Пасьля багаслужбы ў пружанскім саборы выйшла я да Белых Крамаў. У памяці паўстаюць абразкі, як бацькі куплялі нам, дзецям, там матар'ялы на вопратку, панчошкі, грабеньчыкі, а то й цукеркі, і абаранкі. Усё ў крамах можна было купіць. Усе гешэфты праводзіліся, бязумоўна, па-беларуску. А на плошчы рынку ў вялікія торгі — тысячы вазоў і коней, тысячы людзей, тысячы сялян з блізкіх і далёкіх вёсак. Кожны меў свой інтэрас, кожны нешта прадаваў, кожны нешта купляў. І ці каму ў галаву прыходзіла тады ўжываць там якую іншую, чым маю мову, замест свае роднае?! Ніколі!

Што-ж цяпер дзееца ў Белых Крамах? А вось бібліятэка! Заходжу, уражаньне прыемнае, паркетная падлога, усё як сьлед уладжана, прыгожа. Ля дзьвярэй у рамачцы гімн да «Пружанскае зямелькі...». Разглядаю кнігі: мора расейскіх, але вось пасярэдзіне й некалькі тоненькіх брашурак па-беларуску. І гэта ўсё. Далей ізноў — толькі расейскія. Пытаюся ў маладой жанчыны за сталом, ці яны маюць творы Караткевіча, Быкава? Кажа: ёсьць, там далей, паглядзеце. Алé, ёсьць. А вось не магу знайсьці «Каласы пад сярпом тваім». Кажуць мне: у нас забралі. А «Мёртвым не баліць»? Таксама адказваюць: забралі. Хто й нашто забіраў, я ўжо ня пыталася. Кажу толькі: я вось тут (у франтовай залі) аглядаю толькі расейскія кнігі, чаму няма беларускіх? «А вось беларускія», паказвае мне бібліятэкарка ўспомненыя вышэй тоненькія брашуркі.

«Гэта вы называеце беларускія кнігі?! Быццам-бы ў нас нічога ня было!» — адказваю ёй.

Каля мяне ўжо аказалася некалькі маладых бібліятэкарак. Усе яны сьпярша гаварылі па-расейску, а цяпер прынамсі некаторыя сталі гаварыць па-беларуску... На разьвітаньне пажадала ім посьпехаў у працы...

У Пружанах, так як і ў Менску, вельмі шмат зелені, дрэў. І гэта добра. І дбайлівасьць ёсьць пра тое, каб горад прыгожа выглядаў. Шмат якія вуліцы ўпрыгожаныя клёмбамі кветак. Чаго няма ў Пружанах, таксама зрэштай як і ў Менску, гэта касілак касіць траўнікі, а непакошаныя траўнікі выглядаюць як непадстрыжаны чалавек.

Хаджу па Пружанах, а на сэрцы прыемна і... балюча. «Назад ня прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уцякае...» Жыцьцё йдзе й мусіць ісьці наперад, і сяньняшні дзень заўтра пойдзе ў нябыт. Важна толькі, каб сяньняшні дзень ня быў страчаны, каб будаваў нам лепшае заўтра. А лепшае заўтра мусіць прыйсьці, бо мы яго сьвядома сяньня будуем, бо, як адзін пружанец казаў: «Час працуе на нас». Але й мы мусім працаваць, каб у Пружанах, як і ўва ўсёй Беларусі, заквітнела беларушчына, каб Беларусь загаварыла па-беларуску!

Пажамы нам Божа, пажамы нам Маці Божая, што за нас перад вайною плакала...

**Раіса Жук-Грышкевіч**

***З жыцьця ў Аўстраліі***

### УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ ЯНКІ КУПАЛЫ

Беларусы гораду Пэрту ў Заходняй Аўстраліі штагоду ўшаноўваюць памяць Янкі Купалы ня толькі як вялікага Песьняра беларускай зямлі і Прарока беларускага адраджэньня, але і як патрона Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі. 51-ыя ўгодкі трагічнай сьмерці Янкі Купалы сябры Аб'яднаньня адзначылі 10-га ліпеня ў Беларускім Народным Доме ў Байсвотэры. На сьвяткаваньні апрача сяброў і сымпатыкаў нашай арганізацыі былі прысутнымі а. Уладзімер, матушка Ірына і др. Анатоль Бразоўскі. Праграма адзначэньня складалася з двух дакладаў (аднаго па-ангельску, другога па-беларуску) ды ўрыўка з паэмы «Курган». Даклад па-ангельску прачытаў старшыня Б.А. у З.А. Міхась Раецкі малодшы, а па-беларуску сп. Р.М. Апошні прачытаў і ўрывак з паэмы. Падчас пачастунку адбыліся гутаркі пра двумоўе ў Беларусі і падпісаньне ваеннага дагавору з Расеяй. І двумоўе, і ваенны саюз асудзілі, як здраду беларускіх інтарэсаў.

**Р.М.**

*ПАДПІШЭЦЕСЯ НА «БЕЛАРУСА» ДЛЯ СВАЯКА АБО ЗНАЁМАГА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ!*

## АСТАНКІ ЕПІСКАПА БАЛЕСЛАВА СЛОСКАНСА ВЯРТАЮЦЦА Ў РОДНУЮ ЗЯМЛЮ — ЛАТВІЮ



*Епіскап Балеслаў Слосканс*

25 верасьня ў бэльгійскім горадзе Лювэне ў касьцёле манастыра на Цэзарскай Гары была адслужана сьв. Літургія, прысьвечаная разьвітаньню з астанкамі Епіскапа Слосканa (нар. 31.VIII.1893, пам. 19.IV.1981), дзейнасьць якога ў вялікай меры была зьвязана зь Беларусяй. Касьцёл быў перапоўнены. Сярод прысутных было шмат высокіх прадстаўнікоў Каталіцкае Царквы, бэльгійскага й латышскага ўрадаў, Згуртаваньня Латышоў Бэльгіі. Багаслужбу адпраўляў Кардынал Данельс, Прымат бэльгійскае Каталіцкае Царквы.

Наша беларуская група ў Бэльгіі даведалася пра гэтую ўрачыстасьць неафіцыйна, ад сп-ні Зоі Смаршчок, дзякуючы чаму амаль уся наша грамада змагла прысутнічаць на ўрачыстасьці.

У прамовах цэлага шэрагу прадстаўнікоў адзначалася дзейнасьць пакойнага епіскапа. Паводля праграмы, прамаўляць ад «беларускай грамадзкасьці» меўся расейскі монсіньёр, але замест яго выступала нейкая расейская жанчына, якая, як характэрна для расейцаў, пра беларусаў у сваім выступленьні нічога не сказала. Ні слова таксама й аб тым, што гэта расейскія камуністы пазбавілі былі Епіскапа Слосканса волі й загналі на Салаўкі. Паводля яе, Епіскап Слосканс быў «апякуном мільёнаў расейскіх каталікоў», у тым ліку й расейскіх каталікоў у Бэльгіі. Ні славечка пра тое, што нябожчык быў Апостальскім Візытатарам для беларусаў на выгнаньні. Ён таксама вельмі шмат займаўся і беларускімі студэнтамі Лювэнскага Ўнівэрсытэту.

Флямандзкі тыднёвік «Царква й жыцьцё» (Kerk en Leven) падаў шырокі біяграфічны нарыс пра Епіскапа Слосканса, у якім нагадаў, што ў 1952 годзе Папа Пій XII назначыў яго Апостальскім Візытатарам расейцаў і беларусаў на выгнаньні. І запраўды, Епіскап Слосканс быў у сталым кантакце зь беларускімі студэнтамі Лювэнскага Ўнівэрсытэту. Ён прысутнічаў амаль на ўсіх нашых нацыянальных сьвяткаваньнях, на якіх заўсёды прамаўляў па-беларуску, падбадзёрваючы нас да працы на лепшую будучыню.

Асабіста я меў колькі нагодаў спатыкацца й гутарць зь ім. Ён быў чалавекам вялікае культуры зь вельмі добрым сэрцам. Ён адзначаўся надзвычайнай талерантнасьцяй. Ніколі не забудуся на ягоныя словы: «Гэта ня вашая віна, што існуе падзел паміж каталікамі й праваслаўнымі, гэта віна вышэйшых рэлігійных органаў».

Апавядаючы аднойчы аб жыцьці ў савецкім лягеры, расказаў гэткае: «Прыходзіць аднойчы да мяне адна старэнькая жанчына на споведзь. А паколькі яна была праваслаўная, а я — каталік, дык у яе былі пэўныя сумлевы. Пытаецца ў мяне: 'А ці верыш ты ў Хрыста й Прасьвятую Багародзіцу?' 'Веру', адказваю ёй. 'Ну, дык тады я прашу паспавядаць мяне', згадзілася жанчына».

Цяпер цела пакойнага епіскапа будзе спачываць на ягонай роднай і дарагой яму зямельцы — Латвіі, якую ён так любіў, за якую так шмат перажыў і на якую так жадаў вярнуцца яшчэ жывым. Упэўнены, што родная зямля яго шчыра прыме і дасьць яму вечны супачынак. Ягоная сьветлая постаць застанецца ў нашай памяці сымбалем ягонай любові да Бога й людзей.

**Янка Жучка**

## 42-ГІ ГАДАВЫ СХОД БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ

Калі пачаліся рабіцца захады легалізаваньня Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі, дык разам з тым узьнікла неабходнасьць дапасаваньня 40-гадовага статуту Аб'еднаньня да вымаганьняў штатнага закону. Напрыклад, калі паводля старога статуту выбары ўправы адбываліся раз на два гады, дык цяпер іх трэба праводзіць раз на год, і пры тым у вызначаным пэрыядзе — ад пачатку ліпеня да канца жнівеня. Тое самае адносіцца і да ўпарадкаваньня касавай кнігі. Дзеля гэтага сёлетні гадавы зьезд сяброў Аб'еднаньня адбыўся ў жнівені.

У сыботу 21-га жнівеня ў Беларускім Народным Доме ў Байсвотэры сабраліся сябры Аб'еднаньня. Прыбыўшых вітаў, адчыняючы зьезд, старшыня ўступаючай управы Міхась Раецкі малодшы. Затым кіраваў праграмай зьезду сп. Алекс Мароз. Справаздачы з праробленай працы за мінулую кадэнцыю даў старшыня ўступаючай управы, а грашовага стану — скарбнік А. Мароз. З працы Беларускага радыёкамітэту ад ейнага кіраўніка справаздача не вымагалася, бо радыёкамітэт — незалежная арганізацыя.

З дыскусіяў над справаздачамі выявілася, што сябры ўступаючай управы з ускладзеных на іх абавязкаў вывязаліся вельмі добра, за што была выказана падзяка ім. У новую ўправу на кадэнцыю 1993-94 г. былі выбраны старшыня — Міхась Раецкі малодшы, заступнік старшыні — Міхась Ёлаб, сакратар/скарбнік — Алекс Мароз; на прадстаўніка газэты «Беларус» — спня Марыя Мароз і рэфэрэнта вонкавых сувязяў — Міхась Раецкі старэйшы.

Пасьля афіцыйнай часткі адбыўся пачастунак, за прырыхтаваньне якога належыцца шчырая падзяка сяброўкам Беларускага Аб'еднаньня. У часе пачастунку быў праведзены збор ахвяраў на пацярпеўшых у Беларусі ад Чарнобыльскай катастрофы і на газэту «Беларус».

**Р.М.**

# СЬВ. ПАМ. ВАЛЕРЫЯ БУДЗЬКА

**1890-1993**

На 103-ім годзе жыцьця памерла 25 верасьня ў Чыкага Валерыя Будзька, жонка нашаніўца Эдварда Будзькі. Нарадзілася яна 30 сьнежня 1890 году ў Рызе ў Латвіі. Там закончыла сярэднюю школу й выйшла замуж за ведамага беларускага дзеяча Эдварда Будзьку. Ваенныя падзеі закінулі маладое сужэнства ў Пецярбург, дзе ў тым часе было разгорнутае беларускае арганізацыйнае жыцьцё. Эдвард, а зь ім і верная да канца ягоная спадарожніца Валерыя, акунуліся ў вір беларускага жыцьця й скрозь з сабой насілі — на зборкі й беларускія спэктаклі — маленькую першую сваю дачушку Ірку.

Эдвард Будзька належаў да піянераў беларускага руху. Равесьнік Янкі Купалы й Якуба Коласа, зь якімі супрацоўнічаў у «Нашай Ніве», але быў старэйшым нашаніўцам і належаў да старэйшых беларускіх дзячоў, ён быў дзейным да 1905 году. Ужо ў 1901 годзе зарганізаваў беларускую калёнію ў Рызе. Ён — грамадзкі дзеяч і арганізатар, пашыральнік беларускай сьведамасьці, кніжак і газэт, публіцыст рэдактар-выдавец беларускай газэты «Дзяньніца» ў Пецярбурзе ў 1916 годзе, а ў 1920 — «Беларускае Думкі» ў Вільні. Ён займаўся ўсякімі сялянскімі й гаспадарчымі справамі, арганізаваў каапэратывы й выбіўся на аднаго з найлепшых каапэратараў у Беларусі. Быў адным з арганізатараў першай беларускай гімназіі ў Будславе, апякуном беларускай моладзі, што хацела вучыцца. Побач яго заўсёды стаяла ягоная жонка Валерыя, руплівая матка трох, з мастацкім ухілам, заўсёды дзейных у беларускім жыцьці дзяцей: Ірэны, Людовікі й Часлава.

У 20-х і 30-х гадох сям'я Будзькаў жыла ў Вільні. Гасьцінная спадарыня Валерыя Будзька пры розных нагодах, прыкладам у каляндніцу, запрашала да сябе сяброў Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні. Шмат нас бывала ў Будзькаў за доўгім бяседным сталом, каля двух дзесяткаў ці болей, а пасьля застольнае бяседы — песьні, танцы, весялосьць. Цёпла й прывеtліва бывала заўсёды ў Будзькаў.

А пасьля ў беларускім ДП лягеры ў Ватэнштэце, у кватэры гасьціннай сям'і Будзькаў, да якое далучыўся яшчэ й муж Ірэны Вацлаў Пануцэвіч, месьціўся «штаб» выдавецтва скаўцкай і лягернай прэсы; школьных дапаможнікаў; літаратурных выданьняў, намастацку ўпрыгожаных наймалодшым сынам Валерыі Чэсем; друкарня; кіраўніцтва беларускага скаўтынгу ды няпоўны склад настаўнікаў Беларускай гімназіі ў Ватэнштэце. Усе дзеці й зяць Валерыі Будзькі былі выкладчыкамі ў гімназіі, бралі ўдзел у арганізацыі нацыянальных сьвятаў, мастацкіх ды розных культурных імпрэзаў.

І ў Чыкага, дзе пасяліліся сем'і Будзькаў, Пануцэвічаў і Беленісаў, была тая самая традыцыйная гасьцінасьць, перададаная дзецям Маткай Валерыяй, і грамадзкая дзейнасьць, перанятая ад Бацькі Эдварда.

Пражыўшы даўгое — амаль 103 гады — поўнае й карыснае жыцьцё, Валерыя Будзька пакінула ў глыбокім суме дачок Ірэну Пануцэвіч й Людовіку Беленіс, зяця Антона Беленіса, унучку Рамуальду й яе мужа Джэймса і двух праўнукаў Рысу й Антона Янагісаваў.

Прыяцелі сем'яў Пануцэвічаў, Беленісаў і Янагісаваў выражаюць ім у іхнім горы шчырыя спачуваньні й веру ў тое, што душа Дарагое ім Маткі, Бабкі й Прабабкі Валерыі перайшла цяпер у лепшы сьвет вечнага супакою ў Валадарстве Нябесным.

Вечная Ёй памяць!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## СЯРГЕЙ † КАРНІЛОВІЧ

Нарадзіўся ў Докшыцах 4.XI.1929 г., памёр раптоўна ў Кліўлендзе, штат Агаё, ЗША, 29.X.1993 г., аб чым з глыбокім болем паведамляюць і сям'і шчырае спачуваньне выказваюць

**Сябры**

## ЛЯВОН † ВІНІЦКІ

Нарадзіўся ў Нясьвіжы 29 сакавіка 1993 г., памёр у Лёс-Анджэлесе 15 кастрычніка 1993 г., аб чым зь вялікі сумам паведамляе

**Сям'я**

***Просьба да чытачоў і ахвярадаўцаў***

**У СПРАВЕ РАЗЬЛІКУ ЗА ГАЗЭТУ**

Асобы, што дастаюць газэту ад нашага прадстаўніка сп. Браніслава Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца, выпісваючы чэк на ягонае імя і перасылаючы на ягоны адрас:
B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, NJ 08901

ФІНАНСАВАЯ СПРАВАЗДАЧА выдавецкага фонду «Беларуса» будзе зьмешчана ў наступным нумары газэты.

**Адміністрацыя «Беларуса»**

**АХВЯРЫ**

На помнік с.п. М. Ткачова
В. і М. Пашкевічы ам. д. 30
На Беларускую радыёпраграму ў Пэрце (Зах. Аўстралія) Бел. Аб'едн. ў Зах. Аўстраліі аўстр. д. 100

**КАЛЯДНА-НАВАГОДНІЯ ВІНШАВАНЬНІ!!!**

Павіншуйце сваякоў, сяброў і знаёмых тут і на Бацькаўшчыне праз газэту «Беларус» і падтрымайце гэтым беларускае друкаванае слова, складаючы ахвяраваньне на выдавецкі фонд «Беларуса» ў суме **20 дал. за асабістае віншаваньне і 50 дал. за арганізацыйнае.**

Няхай Ваша імя або назоў Вашай арганізацыі, прыходу, установы будзе ў ганаровым сьпісе тых, хто дацэньвае й падтрымвае вольны беларускі друк. Газэта «Беларус» патрабуе Вашай фінансавай дапамогі. Тэрмін уключэньня Вашага прозьвішча або Вашай арганізацыі ў гэткі сьпіс — 5 сьнежня.

## ПОШУКІ СВАЯКОЎ У ЗАМЕЖЖЫ

**Ад Рэдакцыі:** Першы Зьезд беларусаў сьвету даў нагоду некаторым людзям на Бацькаўшчыне зьвярнуцца да газэты «Беларус» з просьбай дапамагчы знайсьці ў замежжы сваякоў. Разумеючы, як гэта важна наладзіць сувязь для тых, хто шукае, як і для тых, каго шукаюць, мы ўсьведамляем сабе і цяжкасьці гэткіх пошукаў, асабліва тых, хто выехаў зь Беларусі да рэвалюцыі 1917 году. Дзеля гэтага мы вельмі просім нашых чытачоў падключыцца да справы пошукаў. Самога апублікаваньня ў «Беларусе» прозьвішча расшукванага чалавека яшчэ замала. Трэба зазірнуць, скажам, у тэлефанічны даведнік гораду, дзе чалавек некалі жыў; пайсьці, магчыма, у царкву, да якой ён мог належаць; пагаварыць з кім-небудзь з Чырвонага Крыжа і да т.п.. Гэта будзе вялікая паслуга для тых, хто ў Беларусі чакае на вестачку пра дарагіх ім сваякоў. Рэдакцыя «Беларуса» абмежаная ў сваіх магчымасьцях зрабіць усё гэта, а таму вельмі просіць чытачоў дапамагчы і загадзе шчыра дзякуе за ўсякае спрыяньне ў гэтай справе. У тых выпадках, дзе пададзены адрас асобы на Бацькаўшчыне, калі ласка, як даведаецеся што-небудзь пра шуканага сваяка, напішэце таму, хто шукае, адпаведны ліст ці паштоўку.

**Нашчадкаў Кораня Антона Пятровіча,** народжанага ў 1880-х гг. у в. Хідра Пухавіцкага раёну Менскай вобласьці, які выехаў у ЗША ў 1912 г. з пляменьнікам Іванам Красінскім і працаваў на табачнай фабрыцы, шукаюць дачка і ўнучка. Спадарожнікам А. Кораня ў ЗША быў Дашкевіч, які жыў і памёр у Флярыдзе, дзе засталася яго сям'я. Пісаць на адрас унучкі А. Кораня: Юшко Людміла Сьцяпанаўна, 220035 Менск, вул. Гастэлы, 6-18 (тэл.: 23-63-41).

**Крэпскі Ясь (Іван)** жыў у ЗША ў 1905-1913 гг. у гор. Ашлендзе (Ashland) у штаце Ўісконсын. Працаваў машыністам на лесавывазе. Пісаць на адрас: Лісоўскі С. А., 220004 Менск, вул. Танкавая, 36-2-61 (тэл.: 23-78-78).

**Каспер Андрэй Васілевіч** (прыблізны год нар. 1892) зь вёскі Чанавічы Нясьвіжскага раёну жыў у гор. Таліда, штат Агаё (паводля іншых зьвестак — у Чыкага). Шукаю ягоных дзяцей, а маіх стрыечных братоў і сясьцёр Івана (Джона), Міхася (Майкла), Данілы (Дэна), Марыі (Мэры), Ульяны. Вельмі прашу дапамагчы. Мой адрас: Нясьвіж, вул. Горкага, 3. Тэл.: (код 8-270) 538-39. Каспер Міхаіл Міхайлавіч.

**Тананушка Іван Міхайлавіч** — нар. ў 1890 г. ў в. Зблянь Лідзкага павету. Выехаў у Амэрыку ў 1913 г., жыў у гор. Чэстэры ў Пэнсыльваніі. Паводля Амэрыканскага Чырвонага Крыжа, памёр у 1951 г., пахаваны ў г. Лінвудзе ў Пэнсыльваніі. Вельмі хацелася-б знайсьці людзей, што ведалі нашага бацьку й дзеда. У Беларусі жыве адзіная дачка — Шафарэвіч Ніна. Просьба пісаць унучцы, Надзеі Пунько на адрас: 220104 Менск, вул. Жудро, 53-81 (тэл.: 55-74-23).

**Цуканова Ўладзіміра** (яму 65 гадоў), сына памерлых бацькоў, якія жылі пад адрасам 75 Doroty Av., Elm Grove, Wheeling, W. V., шукае дваюрадная сястра Ніна й пляменьніца Ліда. Пісаць на адрас: 220090 Менск, Лагойскі тракт, 27-80, Шараева Галіна Яўхімаўна (пляменьніца).

**Ломаць Васіль Сілавіч** — нар. ў в. Карабаны (каля возера Нарач) у былой Маладзечанскай вобласьці. На пачатку стагодзьдзя выехаў у Амэрыку, жыў у Канадзе або ЗША, меў дачку Вольгу. Просьба пісаць пляменьніку на адрас: Зянон Ломаць Кузьміч, г. Слуцк, вул. 14-ці партызан, 1-9.

**Марыніч Васіль Кузьміч** — нар. ў 1926 г. ў в. Чыжэвічы Старобінскага раёну. У 1944 г. яго забралі ў Нямеччыну. Спачатку лісты ад яго прыходзілі як ад «Савіцкага» (баяўся НКВД?). Ці няма яго сярод эміграцыі ў Амэрыцы? Пісаць на адрас: Генадзь Кудзёлка, гор. Салігорск, вул. Кастрычніцкая, 31-50.

**Нагорны Зьміцер Васілевіч** — нар. 1928 (1929?) г. ў в. Паплавы Наваградзкага раёну, забраны ў 1943 г. ў Нямеччыну. Да канца вайны працаваў у Франкфуркце-на-Майне ў тартаку (з тартаку за спробу ўцёкаў загналі ў шахту). Былі чуткі, што нехта бачыў яго ў Канадзе, у Каліфорніі. Просьба пісаць на адрас сястры: гор. Ліда, вул. Перамогі, 10-31, В. А. Груда.

**Дзямянец Сымон Іосіфавіч** — нар. ў 1885-1888 (?) г. ў в. Хворасна Пінскага раёну. Выехаў у ЗША ў 1912 годзе. У 1927 г. прысылаў дамоў даляры зь Нью-Ёрку, а ў 1945 г. — пасылку. Магчыма, меў у Амэрыцы сям'ю. Просьба пісаць на адрас: 223440 Менская вобл., Узьдзенскі раён, г. Узда, вул. 70 год Кастрычніка, 12. Дзямянец Павал Іванавіч.

**Юрка Якубовіч, член-карэспандэнт, псыхоляг,** шукае сястру Ніны (нар. 19.V.1915 у Вільні) і Яўгена Якубовічаў, якая жыла ў Аўстраліі ў 1957 годзе (у тым годзе Яўген памёр у Лёндане). Цётка, напішэце пляменьніку: Alex Cato, 24 Treadgold Street, Notting Dale, London W11 4BP, UK. Хацеў-бы пачуць ад Вас.

**Сваякі шукаюць Мукасея Ўладзіміра Сямёнавіча** (нар. у 1926 г.). зь вёскі Красоўскія Горы Карэліцкага раёну Горадзенскай вобласьці. Весткі слаць на адрас: Mr. S. Butkiewicz, 55 Ivybridge Rd., Coventry CV3 5PF, England.

**Дзядзьку Матылевіча Рыгора Антонавіча** (прыблізна 1910 г. нарадж.) зь вёскі Каменшчына, павет Моўчаць, гміна Наваградак , які знаходзіўся ў 1939г. ў Бэльгіі, і ягоных дзяцей шукае пляменьніца. Пісаць на адрас: 22012 Мінск, вул. Сурганава, 21-49, Матылевіч Канстанцін Пятровіч. (тэл.: 31-66-20).